Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск, Дом Урада, левае крыло, 4 паверх, комн. № 405.
тэл. № 23-287.

№ 18 | Год выдання 1-ы | 21 чэрвеня 1935 г. | № 18

## За павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці ў гандлёвым апараце

Друкуемая у гэтым нумары бюлетэня пастанова Наркамунутгандля БССР аб рабоце Мазырскай канторы Белгандля павінна прыцягнуць да сябе ўвагу ўсіх звенняў гандлёвага апарата.

План таваразварота па Мазырскай канторы Белгандля сістэматычна не выконваецца.

Прычыны такога з'явішча ляжаць у нездавальняючай і выключна дрэннай рабоце Мазырскай канторы Белгандля.

Не гаворачы ўжо аб непрыняцці ніякіх мер да насычэння сеткі радам дастатковых тавараў і прывядзення яе ў належнае становішча, што само па сабе характарызуе з самага адмоўнага боку работу Мазырскай канторы Белгандля,—кіраўніцтва гэтай канторы ў асобе тав. Галубчыкава хварэе сляпой лёгкадумнай даверлівасцю і неведаннем людзей, што на практыцы прывяло да страты рэвалюцыйнай пільнасці.

Апарат Мазырскай канторы Белгандля засмечан класава-варожым і чуждым элементам. Дырэкцыяй Белгандля ўскрыта па гэтай канторы растрата ў 21.000 рублёў, якая зроблена аферыстам і ілжэ-камсамольцам Трэгубам.

Калі-б тав. Галубчыкаў здолеў падабраць людзей і ўстанавіў-бы сістэматычны нагляд за ходам рэалізацыі тавараў і здачай выручкі па кожнаму магазіну, гэты з рада вон выходзячы факт расхішчэння дзяржаўных сродкаў быў-бы ў корані прасячон.

У сілу гэтага—ачышчэнне апарата Мазырскай канторы Белгандля ад класава-варожага і злачыннага элемента і замена яго чэснымі савецкімі работнікамі, рашучая барацьба з растратамі і хішчэннямі, пашырэнне і ўпарадкаванне гандлёвай сеткі, рацыянальнае скарыстанне вылучаемых для гэтай мэты сродкаў павінны стаць для дырэкцыі Белгандля і кіраўніцтва Мазырскай канторы бальшэвіцкай праграмай барацьбы за выкананне плана таваразварота.

Пастанова Наркамунутгандля БССР узнімае ўсе гэтыя пытанні на прынцыповую палітычную вышыню. Таму ўся грамадскасць гандлёвых арганізацый павінна быць мабілізавана на рэалізацыю гэтай пастановы.

Поўнасцю выканаць план таваразварота і абвясціць рашучую барацьбу не толькі зладзеям і растратчыкам, але і ўсім тым, хто патурае ім сваёй дрэннай работай—вось тыя вынікі, якія павінны зрабіць для сябе ўсе работнікі гандлёвай сістэмы.

А-Н.

## У НАРКАМУНУТГАНДЛІ Б. С. С. Р.

◆ Наркамунутгандаль дазволіў выраб і продаж пірожных, тартоў і кексаў у Гомелі, Віцебску, Магілёве, Оршы, Бабруйску і Барысаве. Выраб пірожных, тартоў і кексаў у Гомелі, Віцебску, Бабруйску і Магілёве ўскладзен на Белкмо.

Продаж гэтых вырабаў павінна праводзіць сетка дзяржгандлю, спажывецкай кааперацыі і ОРС'аў.

◆ Загадам Наркома Унутранага Гандля БССР т. Гурэвіча дырэктарам канторы „Бакалея" назначан т. Кашталянаў.

◆ Рознічная прадажная цана бульбы дэцэнтралізаваных загатовак ураджая 1934 г., прадаваемая ў перыяд чэрвень—да 15 ліпеня 1935 г. устаноўлена ў размеры 20 кап. за кілаграм.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Аб рабоце Мазырскай канторы Белгандля

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

7 чэрвеня 1935 г. **№ 278** г. Менск

Дырэкцыя Мазырскай канторы Белгандля (т. ГАЛУБЧЫКАЎ) сістэматычна не выконвае план таваразварота: план за 1-шы квартал выканан на 93 проц., план за красавік і май—толькі на 49 проц. да квартальнага плана.

Такое нездавальняючае выкананне плана з'яўляецца асабліва недапушчальным у сувязі з тым, што план для Мазырскай канторы з'яўляецца яўна пераўменшаным—15 тыс. руб. у дзень, як па гораду Мазыру, так і абслугоўваемым Мазырскай канторай сельскім раёнам Петрыкаў, Нароўля, Тураў, Жыткавічы, Ельск, Даманавічы.

Нездавальняючая работа Мазырскай канторы ў першую чаргу тлумачыцца тым, што:

а) дырэкцыя канторы не забяспечыла насычанасць сеткі цэлым радам тавараў, якія ёсць у дастатковай колькасці, як-та: парфумерыя, мебля, шкло, галантарэя;

б) крайне недастатковай сеткаю, у асаблівасці па Мазыру і дрэнным становішчам сеткі па абслугоўваемых раёнах. Наяўныя-ж магазіны знаходзяцца ў антысанітарным становішчы—гразь, пыл, без вітрын, без вывесак і т. д.

в) Засмечанасцю апарата класава-чуждымі элементамі: у адным толькі кіраўнічым апараце канторы працуюць сын рабіна, сын рэзніка, дачка растрэлянага контррэвалюцыянера і дачка былога афіцэра;

г) адсутнасцю пільнага кантроля з боку дырэктара т. ГАЛУБЧЫКАВА за работай кожнай крамы ў паасобку, за завозам тавараў.

У выніку такой работы стала магчымым утварэнне буйнай растраты на 21 тыс. руб. загадчыкам магазіна ў Нароўлі ТРЭГУБАМ. Як выяўлена праверкай, праведзенай дырэктарам Белгандля т. МОВШЭНЗОНАМ на месцы, утварэнне такой вялікай растраты ТРЭГУБАМ магло быць папярэджана, калі-б інструктарска-бухгальтарскі апарат і ў першую чаргу сам дырэктар т. ГАЛУБЧЫКАЎ сачылі-б за здачай выручкі Нараўлянскім магазінам і за ходам рэалізацыі паступаючых тавараў. У Нараўлянскі магазін паступіла тавараў за сакавік і красавік на 38 тыс. руб., а прадана тавараў за гэтыя два месяцы на 23 тыс. руб.

Гэты факт, а таксама і тое, што за красавік магазін здаў выручкі амаль у два разы менш, чым за сакавік, павінна было служыць сігналам дырэктару аб арганізацыі неадкладнай рэвізіі ў Нараўлянскім магазіне, тым больш, што ТРЭГУБ прынят на работу без папярэдняй праверкі, толькі па пуцёўцы Райкамола.

Адсутнасць пільнасці з боку дырэктара т. ГАЛУБЧЫКАВА яшчэ падцвярджаецца тым, што пасля таго, як ён даведаўся аб растраце, ім не былі прыняты належныя меры да розыску растрачтыка і ў першую чаргу тавараў, адпраўленых растратчыкам з магазіна па невядомаму адрасу—на прыстань Выдумка.

Выходзячы з гэтага Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР п а с т а н а ў л я е:

1. За выключна нездавальняючую работу канторы, за дапушчэнне вялікіх растрат, за зрыў плана таваразварота, за засмечанасць апарата чуждым элементам дырэктар канторы т. ГАЛУБЧЫКАЎ заслугоўвае зняцця з работы і аддачы пад суд, але прымаючы пад увагу, што т. ГАЛУБЧЫКАЎ дае цвёрдае абяцанне выправіць работу канторы, узмацніць сваё кіраўніцтва і кантроль за работай кожнага работніка, выканаць план таваразварота,—абмежавацца абвяшчэннем т. ГАЛУБЧЫКАВУ суровай вымовы з занясеннем у працоўны спіс, папярэдзіўшы яго, што ў выпадку невыпраўлення выяўленых недахопаў у рабоце канторы, ён будзе знят з работы і прыцягнут да судовай адказнасці.

У мэтах узняцця таваразварота па Мазырскай канторы і абслугоўваемым канторай раёнам прыняць наступныя меры:

**П а с е т ц ы:**

1. Абавязаць т. ГАЛУБЧЫКАВА адкрыць на працягу III-га квартала яшчэ два магазіны ў Мазыры: адзін на базары да 15 ліпеня і адзін магазін на Цэнтральнай плошчы (былая ашчадкаса), прыняўшы да ведама заяву т. ГАЛУБЧЫКАВА, што Райвыканком перадае Мазырскай канторы Белгандля гэты магазін і ідзе на значнае палягчэнне ў арганізацыі гандлю ў гэтым памяшканні тым, што прадастаўляе памяшканне на 5 год без арэнднай платы. Тэрмін адкрыцця гэтага магазіна 15 жніўня 1935 года.

2. Прывесці ў парадак, у патрэбных выпадках з заменай памяшканняў, наступныя магазіны па раёнах, якія абслугоўваюцца Мазырскай канторай: магазін у Нароўлі да 1 жніўня г. г., магазін у Петрыкаве да 10 жніўня, магазін у Жыткавічах да 1 жніўня.

3. Устанавіць, што ў памяшканнях ашчадкасы і аслабаняемым арцелью павінен быць адчынен універсальны гандаль усімі промтаварамі, уключаючы меблю, пасуду і т. д.

4. Згадзіцца з прапановай дырэкцыі Белгандля т. МОВШЭНЗОНА аб выдзяленні на рамонт і абсталяванне паказаных вышэй памяшканняў наступныя сродкі:

а) па магазіну ў Мазыры на базары 5000 руб. Устанавіць зварот для гэтага магазіна 150.000 руб. у квартал;

б) па магазіну ў былой ашчадкасе 20.000 р. з тым, што памяшканне, якое аслабаняецца ад арцеляй і ніжэйшы паверх былі-б скарыстаны для гандля мебляй, з паследуючым капітальным рамонтам у 1936 годзе. Устанавіць квартальны план таваразварота для гэтага магазіна 400.000 руб.;

в) для прывядзення ў парадак магазінаў у Нароўлі, Петрыкове і Жыткавічах—7.000 р.

Прапанаваць т. МОВШЭНЗОНУ вызначыць у распараджэнне дырэктара Мазырскай канторы Белгандля 5.000 р. на рамонт іншай сеткі, па ўзгадненню з мясцовымі органамі.

5. Абавязаць т. ГАЛУБЧЫКАВА скарыстаць гэтыя сродкі па гаспадарскі, устанавіўшы кантроль за выдаткаваннем кожнага рубля, абсталяваннем у магазінах узорных вітрын, прылаўкаў і т. д.

6. Абавязаць т. ГАЛУБЧЫКАВА на працягу 10 дзён прадставіць праекты і каштарысы на зацвярджанне рэспубліканскай канторы.

### Па ўзмацненню завоза тавараў:

1. Абавязаць т. ВАЛОЖЫНА у трохдзённы тэрмін устанавіць календарны план завоза тавараў, нехапаючых у Мазырскай канторы, перакінуўшы з Мазырскай канторы тавары, якія не маюць там попыта, у іншыя раёны, дзе ёсць попыт на гэтыя тавары.

2. Тав. ГАЛУБЧЫКАВУ неадкладна па прыездзе скласці асартыментную заяўку г. ВАЛОЖЫНУ на нехапаючыя дастатковыя тавары для завоза і спецыфікацыю на нехадавыя тавары для перакідкі ў іншыя раёны, або ўцэнкі.

3. Абавязаць т. ВАЛОЖЫНА пры складанні плана завоза тавараў на III-ці квартал па сельскаму фонду для прымежных раёнаў устанавіць больш узмоцнены завоз, асабліва дастатковых тавараў, на якія ёсць вялікі попыт у гэтых раёнах.

4. Устанавіць на III-ці квартал наступны план таваразварота па Мазырскай канторы: на ліпень 450 тыс. р. жнівень 550 тыс. руб., верасень 700 тыс. руб. разам за квартал 1.700.000 руб., г. зн. павелічэнне на 25 проц. супроць плана другога квартала.

5. Абавязаць тт. ВАЛОЖЫНА і ГАЛУБЧЫКАВА прыняць усе патрэбныя меры для таго, каб чэрвенскі план быў поўнасцю выканан.

### Па кадрах:

Прапанаваць т. ГАЛУБЧЫКАВУ ачысціць апарат канторы ад чуждых элементаў і падабраць неадкладна людзей на работу, ў першую чаргу тавараведаў і гандлёвых работнікаў.

### Па барацьбе з растратамі:

1. Абавязаць т. ГАЛУБЧЫКАВА неадкладна арганізаваць рэвізію па ўсіх без выключэння магазінах Мазырскай канторы Белгандля у перыяд з 10 чэрвеня па 20 чэрвеня з тым, каб у час рэвізіі адначасова ўстанавіць неабходныя мерапрыемствы па ўзмацненню таваразварота па рэвізуемых магазінах (завоз тавараў, прывядзенне магазіна ў парадак і т. д.). Вынікі рэвізіі магазінаў разглядаць у канторы з удзелам загадчыкаў магазінаў.

2. Прапанаваць т. ГАЛУБЧЫКАВУ праверыць рух спраў па ўсіх растратах мінулага часу (па кожнай растраце у паасобку), прыняўшы неадкладныя меры да спагнання растрачаных сум і хуткаму прахаджэнню спраў аб растратах у органах пракуратуры і суда. Па растраце ТРЭГУБА прыняць неадкладна меры праз следчыя органы да розыска ТРЭГУБА ўкрадзеных і адгружаных ім тавараў на прыстань Выдумка.

### Аб транспарце:

Абавязаць дырэктара Белгандля т. МОВШЭНЗОНА на працягу 10 дзён адгрузіць грузавую аўтамашыну Мазырскай канторы Белгандля.

* * *

Камандыраваць т. БАШНЕВА—Нач. аддзела кіраўніцтва ўласнымі прадпрыемствамі Наркамата на 5 дзён і прапанаваць т. МОВШЭНЗОНУ камандыраваць т. РАТНЕРА—Нам. загадчыка фін. аддзелам Белгандля на 15 дзён у Мазыр для аздараўлення ўсёй дзейнасці канторы і забеспячэння правядзення гэтай пастановы ў жыццё.

Указаць Мазырскаму Горунутгандлю т. ВАРШАЎЧЫКУ на слабы кантроль і недастатковую дапамогу канторы Белгандля і прапанаваць яму актыўным удзелам забяспечыць выкананне гэтай пастановы.

Прасіць сакратара райкома партыі т. ЛЕВІНА і старшыню Мазырскага Райвыканкома т. ЖОГАВА ў мэтах аздараўлення работы канторы і ўзняцця таваразварота дапамагчы дырэктару канторы т. ГАЛУБЧЫКАВУ ў падборы на работу ў канторы намесніка дырэктара, маючага вопыт у гандлёвай рабоце, аднаго тавараведа і аднаго інструктара-кантралёра.

Прасіць таксама т. т. ЛЕВІНА і ЖОГАВА заслухаць даклад т. ГАЛУБЧЫКАВА аб выкананні гэтай пастановы.

Абавязаць т. ГАЛУБЧЫКАВА інфармаваць Наркамунутгандль і Белкантору Белгандля аб ходзе выканання гэтай пастановы па кожнаму пункту ў паасобку праз кожныя 15 дзён.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

---

## Сурова змагацца з парушыцелямі канвенцыйных цэн

### Загад па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР

### № 201

8 чэрвеня 1935 г. г. Менск.

Пастановай СПА ад 16 студзеня 1933 г. катэгарычна забаронены дэцнарыхтоўкі па звыш канвенцыйных цэнах. Між тым па паступаючых звестках нарыхтоўчыя арганізацыі сістэмы Наркамунутгандля БССР парушаюць канвенцыйныя цэны, як простымі пераплатамі, так і пад відам сукосных аплат (хаванне, адкорм жывёлы, перавозка прадуктаў і т. д.).

У мэтах поўнага ажыццяўлення пастаноў урада аб захаванні канвенцыйных цэн пры дэцэнтралізаваных загатоўках ЗАГАДВАЮ:

а) прыняць рашучыя захады да недапушчэння парушэння простым ці сукосным шляхам канвенцый-

ных цэн. Ускласці адказнасць за дапушчэнне парушэнняў на дырэктароў арганізацый;

б) дырэктарам трэста правесці праверку дзейнасці за студзень-красавік месяцы 1935 года падпарадкаваных арганізацый, якія займаюцца дэцэнтралізаванымі загатоўкамі і ў выпадку выяўлення парушэнняў вінаватых неадкладна прыцягнуць да адказнасці;

в) для ўстанаўлення сістэматычнай сталай сувязі з Канвенцбюро і ўдзела ў рабоце апошніх, Райунутгандлям персанальна прымаць удзел у працы раённых канвенцыйных бюро.

Нарком Унутранага Гандля
БССР **Н. Гурэвіч**

# ДАДАТКОВЫЯ НОРМЫ НАТУРАЛЬНАЙ УБЫЛІ ТАВАРАЎ

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля СССР.

31 мая 1935 г. **№ 414.** г. Масква.

§ 1.

У дадатак да пастановы Наркамунутгандля Саюза ССР ад 28. III—1935 г. за № 181 „Аб нормах натуральнай убылі тавараў у рознічным гандлі“—уставіць наступныя гранічныя патаварныя нормы натуральнай убылі тавараў у рознічным гандлі, не ўвайшоўшыя ў пералік памянёнай пастановы:

| №№ п/п | Назва тавараў | У %% да зварота | | | Тэрмін хавання ў днях не больш | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Летам | Сярэднягадавы | Зімой | Летам | Сярэднягадавы | Зімой |
| | **1. Мяса і мясатавары.** | | | | | | |
| 1 | Бужаніна (свініна жараная) | 0,30 | 0,50 | — | 2 | — | 5 |
| 2 | Студзень (халадзец) | — | 0,50 | — | 1 | — | 3 |
| 3 | Целяціна вараная | — | 1,00 | — | 1 | — | 3 |
| 4 | „ жараная | — | 0,50 | — | 1 | — | 3 |
| | **2. Рыба і рыбтавары** | | | | | | |
| 5 | Бок белужны капчоны | 1,0 | — | 0,75 | 3 | — | 10 |
| 6 | Бычкі салёныя | 1,5 | — | 1,0 | 3 | — | 10 |
| 7 | Дэльфін капчоны | — | 2,0 | — | 5 | — | 15 |
| 8 | Карушка | 1,0 | — | 0,50 | 3 | — | 15 |
| 9 | Цюлька салёная | 1,5 | — | 1,0 | 3 | — | 10 |
| 10 | Хамса | 1,5 | — | 1,0 | 3 | — | 10 |
| | **III. Плодаагародніна.** | | | | | | |
| 11 | Бруснíка свежая | — | 1,0 | — | 3 | — | 5 |
| 12 | Інжыр весавы | — | 0,6 | — | — | 20 | — |
| 13 | Клюква марожаная | — | 1,0 | — | 2 | — | 5 |
| 14 | Масліны салёныя | — | 1,0 | — | 5 | — | 15 |
| 15 | Вінегрэт | — | 0,50 | — | 24 ч. | — | 2 дн. |
| 16 | Ікра грыбная | — | 0,50 | — | 1 | — | 5 |
| 17 | Кампот весавы | — | 0,60 | — | — | 20 | — |
| 18 | Насенне match рознае (агародныя, кармавыя, травяныя, кветачныя, і інш.) | — | 0,75 | — | — | 90 дн. | — |
| | **IV. Малочна-жыравыя.** | | | | | | |
| 19 | Брынза | — | 1,0 | — | 5 | — | 10 |
| 20 | Компаунд-жыр | — | 0,6 | — | 3 | — | 10 |
| 21 | Сыр Гаудэ | — | 1,20 | — | 5 | — | 10 |
| | **V. Розныя.** | | | | | | |
| 22 | Вата | — | 0,20 | — | — | 25 | — |
| 23 | Вяроўкі | 0,3 | — | 0,2 | — | 25 | — |
| 24 | Шпагат | — | 0,1 | — | — | 25 | — |
| 25 | Дэнатурат разліўны | 0,25 | — | 0,15 | 5 дн. | — | 25 |
| 26 | Масла смазачнае развесное | — | 0,20 | — | — | 15 | — |
| 27 | Калёсная мазь і мазут развесны | — | 0,20 | — | — | 25 | — |

§ 2

Гэтая пастанова не распаўсюджваецца на Ленінград і Ленінградскую вобласць і на Саюзныя рэспублікі, краі і вобласці, паказаныя ў п. 5 пастановы Наркамунутгандля СССР ад 23 сакавіка г. г. за № 181.

Народны Камісар Унутранага
Гандля СССР **ВЕЙЦЭР**

## АД РЭДАКЦЫІ.

У гандлёвым бюлетэні № 16, нумар пастановы Наркамунутгандля СССР „Аб нормах натуральнай убылі ў рознічным гандлі“ ад 28-III-35 г. памылкова ўказан 183, замест 181.

# Разгарнуць шырокі гандаль крупой, макаронамі і мукой

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР.

3 чэрвеня 1935 г. **№ 271** г. Менск.

Улічваючы недастатковае разгортванне паўсямеснага гандлю крупой, макаронамі і мукой па БССР, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Прапанаваць усім гандлюючым арганізацыям поўнасцю скарыстаць усю сетку харчовых крам і ларкоў (за выключэннем спецыялізаваных хлебных) для паўсямеснага продажу круп, макарон і мукі як у гарадскіх пунктах, так і на вёсцы.

2. Звярнуць увагу прэзідыума Белкаапсаюза на слабую работу Райсаюзаў і асабліва сельпо па продажу круп, макарон і мукі, на неабходнасць рашуча прапанаваць усім Райсаюзам шырока разгарнуць рэалізацыю крупы, макарон і мукі па ўсёй сетцы сельпо, а таксама дабіцца правільнага прадстаўлення Райсаюзамі гандлёвай скідкі сельпо з рознічных цэн, каб стварыць рэнтабельнасць гандлю сельпо гэтымі прадуктамі.

3. Ускласці асабіста на Горрайунутгандлі абавязак нагляда і праверкі ажыццяўлення гэтай пастановы на мясцох, забяспечваючы поўную загрузку гэтымі прадуктамі ўсіх харчовых крам горада і вёскі.

4. Давесці да ведама упаўнаважанага НКхарчпрома па БССР т. Стакуна аб тым, што Барысаўская макаронная фабрыка, ня гледзячы на спецыяльны дазвол НКПС адпраўляць дробныя партыі макарон, да гэтага часа не выконвае заказаў гандлюючых арганізацый на адгрузку дробных партый, што тармозіць разгортванне гандля макаронамі на перыферыі. Прасіць т. Раксіна прымусіць макаронную фабрыку выконваць заказы на дробныя адпраўкі.

5. На падставе п. 7 пастановы СНК БССР за 31 мая 1935 г. „Аб плане прадажы хлеба, мукі і крупы на чэрвень месяц“ прасіць Упаўнаважанага Камітэта загатовак СНК т. Гваздзецкага і Упаўнаважанага „Заготзерно“ т. Нольдэ тэрмінова давесці на месцы дырэктыву аб адмене ліміціравання асартымента круп і аб водпуску іх для рознічнай продажы у адпаведнасці з фактычным попытам на пасобныя гатункі, адначасова забяспечыўшы адпаведныя перакідкі крупы па раёнах.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

---

# Арганізаваць ларкі па абслугоўванню бульбаздатчыкаў

## ПАСТАНОВА

## Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

2 чэрвеня 1935 г. **№ 258** г. Менск.

У выкананне пастановы СНК БССР ад 16 красавіка № 544, п. 12 Наркамунутгандль БССР пастанаўляе:

1. Зацвердзіць план арганізацыі ларкоў па абслугоўванню бульбаздатчыкаў пры 230 прыёмачных пунктах, з іх па сістэме Белкаапплодагародніны спажыўкааперацыяй—62 ларка і Белгандлем—19 ларкоў, а ўсяго 81 ларок; па сістэме Белплодагародніны—спажыўкааперацыяй—44 ларка, Белгандлем—15 ларкоў, а ўсяго—59 ларкоў; па трэсту БЕЛКМО—спажыўкааперацыяй—11 ларкоў, па Упоўнаркамсаўгасу—спажыўкааперацыяй—14 ларкоў, па Белгалоўспірту—спажыўкааперацыяй—65 ларкоў. Разам па ўсім бульбазагатоўчым сістэмам—спажыўкааперацыя—196 ларкоў, Белгандлем—34 ларкі.

2. Абавязаць Белгандаль і Белкаапсаюз закончыць арганізацыю вышэйпералічанай колькасці ларкоў пры бульбапрыёмачных пунктах не пазней 15 ліпеня 1935 г.

3. Усувязі з тым, што ў пастанове СНК БССР указана: „Райвыканкомам і Горсоветам аказаць загатавіцельным арганізацыям дапамогу ў прадстаўленні памяшканняў для арганізацыі ларкоў, чайных і ленкуткоў“—абавязаць Белкаапсаюз і Белгандаль неадкладна звязацца з Райвыканкомамі і Горсоветамі на прадмет атрымання памяшканняў для ларкоў у адпаведнасці з вышэйпаказанай пастановай СНК БССР.

4. Кантроль за выкананнем гэтай пастановы на мясцох ускласці на Горрайунутгандлі, а па цэнтральных арганізацыях на тав. КАМЕНЕЦКАГА.

Нам. Наркома Унутранага
Гандля БССР **І. Верба**

---

# Аб забеспячэнні тэхнічнымі праектамі і каштарысамі будаўніцтва аб'яднанняў НКУГ.

## Загад па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР.

31 мая 1935 г. **№ 183** г. Менск.

Не гледзячы на жорсткія дырэктывы ўрада аб забароне беспраектнага і безкаштарыснага будаўніцтва, ўстаноўлена адсутнасць каштарысаў і тэхнічных праектаў па раду аб'ектаў будаўніцтва.

Загадваю:

1. Катэгарычна забараніць будаўнічыя работы і затраты на будаўніцтва пры адсутнасці зацверджаных каштарысаў і праектаў.

2. Усе наяўныя каштарысы прадставіць 3-га чэрвеня г. г. аддзелу кіраўніцтва прадпрыемствамі Наркамунутгандля БССР.

3. З 3-га чэрвеня спыніць работы па аб'ектах, не забяспечаных праектамі і каштарысамі.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# Ц Э Н Ы

## СІСТЭМАТЫЗАВАНЫ ПРЭЙСКУРАНТ

### Адзіных адпускных цэн на кансервы „Галоўкансерв“ і „Галоўрыба“ франко-станцыя або прыстань назначэння.

| Назва кансерваў | Расфасоўка | Цана за 1 банку. 1 сорт. | | Цана за 1 банку. В/ сорт. | |
|---|---|---|---|---|---|
| **РЫБНЫЯ КАНСЕРВЫ** | | | | | |
| **А. У тамаце, марынадзе, у ўласным саку (натурэль)** | | | | | |
| 1 Асетрына севрюга, белуга і сцерлядзь . . . . . | 225 | 2 | 75 | 3 | 30 |
| | 350 | 3 | 67 | 4 | 40 |
| | 400 | 4 | 04 | 4 | 85 |
| | 453 | 4 | 51 | 5 | 41 |
| | 500—520 | 5 | 14 | 6 | 17 |
| 2. Нельма, максун і іншая белая рыба . . . . . | 200 | 2 | 25 | 2 | 70 |
| | 225 | 2 | 41 | 2 | 89 |
| | 350 | 3 | 21 | 3 | 90 |
| | 400 | 3 | 53 | 4 | 24 |
| | 453 | 3 | 95 | 4 | 74 |
| 3. Скумбрыя, кефаль і чырус | 160 | 2 | 68 | 3 | 22 |
| | 225 | 3 | 10 | 3 | 72 |
| | 350 | 4 | 13 | 4 | 96 |
| | 453 | 5 | 08 | 6 | 10 |
| | 500—520 | 5 | 78 | 6 | 94 |
| 4. Султанка, стаўрыда, сардзелі, камбала, змарыда . | 160 | 1 | 79 | 2 | 15 |
| | 225 | 2 | 06 | 2 | 47 |
| | 350 | 2 | 75 | 3 | 30 |
| | 453 | 3 | 38 | 4 | 06 |
| | 500—520 | 3 | 85 | 4 | 62 |
| 5. Буйная часціковая рыба (судак), сазан, сом, ершч, шчука, телаліда, сельдзь каспійская . . . . . | 225 | 1 | 73 | 2 | 08 |
| | 320 | 2 | 19 | 2 | 63 |
| | 350 | 2 | 30 | 2 | 76 |
| | 380 | 2 | 46 | 2 | 95 |
| | 400 | 2 | 53 | 3 | 04 |
| | 453 | 2 | 83 | 3 | 40 |
| | 500—520 | 3 | 22 | 3 | 86 |
| 6. Бычкі . . . . . . . | 160 | 1 | 37 | 1 | 64 |
| | 225 | 1 | 58 | 1 | 90 |
| | 350 | 2 | 10 | 2 | 52 |
| | 400 | 2 | 31 | 2 | 77 |
| | 453 | 2 | 58 | 3 | 10 |
| | 500—520 | 2 | 94 | 3 | 53 |
| 7. Філе з часціковай рыбы і фарш. з белай і краснай рыбы . . . . . . . | 225 | 2 | 06 | 2 | 47 |
| | 350 | 2 | 75 | 3 | 30 |
| | 453 | 3 | 38 | 4 | 06 |
| | 500—520 | 3 | 85 | 4 | 62 |
| 8. Мелкая часціковая рыба і фарш з часціковай рыбы . | 225 | 1 | 37 | — | — |
| | 350 | 1 | 83 | — | — |
| | 400 | 2 | 01 | — | — |
| | 453 | 2 | 25 | — | — |
| | 500—520 | 2 | 56 | — | — |
| 9.Ількі . . . . . . . | 320—330 | 3 | 05 | 3 | 97 |
| | 350 | 3 | 21 | 4 | 17 |
| | 370 | 3 | 40 | 4 | 42 |
| | 453 | 3 | 95 | 5 | 14 |
| | 500—520 | 4 | 49 | 5 | 84 |
| 10. Чорнаморская хамса (ількі) . . . . . . . . | 320—330 | 2 | 61 | — | — |
| | 350 | 2 | 75 | — | — |
| | 370 | 2 | 92 | — | — |
| | 453 | 3 | 38 | — | — |
| | 500—520 | 3 | 85 | — | — |
| 11. Ракавыя шэйкі . . . . | 210—220 | 2 | 98 | 3 | 58 |
| | 350 | 4 | 13 | 4 | 96 |
| 12. Печань наліме . . . . | 225 | 4 | 40 | 5 | 28 |
| | 453 | 6 | 60 | 7 | 92 |
| 13. Печань трэскі . . . . | 320 | 5 | 04 | — | — |
| 14. Анчоусы . . . . . . . | 100 | 1 | 70 | 2 | 04 |
| | 120—130 | 2 | 06 | 2 | 47 |
| | 160 | 2 | 75 | 3 | 30 |
| 15. Сельдзь чорнаморская, беламорская і мурманская у тамаце . . . . . . | 320—330 | 2 | 57 | — | — |
| | 350—360 | 2 | 66 | — | — |
| | 380 | 2 | 74 | — | — |
| | 400 | 2 | 93 | — | — |
| | 453 | 3 | 27 | — | — |
| | 500—520 | 3 | 72 | — | — |
| **Б. У масле** | | | | | |
| 16. Шпроты . . . . . . . | 160 | 2 | 98 | 3 | 87 |
| | 320—330 | 4 | 59 | 5 | 97 |
| | 380 | 4 | 91 | 6 | 38 |
| 17. Сельдзь беламорская і мурманская . . . . . . . | 150—160 | 2 | 09 | — | — |
| | 320 | 3 | 21 | — | — |
| | 360—380 | 3 | 43 | — | — |
| | 500—520 | 4 | 49 | — | — |
| 18. Сельдзь чорнаморская . | 225 | 2 | 41 | 3 | 13 |
| | 320 | 3 | 21 | 4 | 17 |
| 19. Султанка стаўрыда сардзелі | 160 | 2 | 24 | 2 | 91 |
| | 225 | 2 | 58 | 3 | 35 |
| | 320 | 3 | 44 | 4 | 47 |
| | 453 | 4 | 23 | 5 | 50 |
| 20. Скумбрыя, кефаль і чырус | 160 | 2 | 98 | 3 | 87 |
| | 225 | 3 | 44 | 4 | 47 |
| | 320 | 4 | 59 | 5 | 97 |
| | 453 | 5 | 65 | 7 | 35 |

| Назва кансерваў | Расфасоўка | Цана за 1 банку: 1 сорт | | В/ сорт | |
|---|---|---|---|---|---|
| **В. Дальнеусходнія. у тамаце, марынадзе, і ўласным саку (натурэль)** | | | | | |
| 21. Сардыні (івасі) . . . . | 420—425 | 4 | 37 | 5 | 29 |
| 22. Кета навага . . . . . | 453 | 3 | 21 | 3 | 85 |
| | 225 | 1 | 83 | 2 | 20 |
| 23. Гарбуша, галец . . . . | 453 | 3 | 21 | 3 | 85 |
| | 225 | 1 | 83 | 2 | 20 |
| 24. Кіусуч, неркачавіча. . . | 453 | 3 | 94 | 4 | 73 |
| | 225 | 2 | 57 | 3 | 08 |
| 25 Окунь, краснаперка . . | 425 | 2 | 75 | 3 | 30 |
| | 225 | 1 | 60 | 1 | 92 |
| 26. Карушка . . . . . . | 225 | 2 | 29 | 2 | 75 |
| 27 Кабей грэбешок . . . . | 225 | 3 | 30 | 3 | 96 |
| **У масле** | | | | | |
| 28. Сардыны „Маяк“ . . . | 225—235 | 3 | 21 | 4 | 17 |
| 29. Сардыны „Пенданд“ . . | 165 | 2 | 75 | 3 | 58 |
| 30. Карушка . . . . . . | 310 | 3 | 21 | 4 | 17 |
| 31. Тунец. . . . . . . | 225 | 2 | 75 | 3 | 58 |
| **Агародныя.** | | | | | |
| 32. Перац, баклажаны, памідоры, кабачкі, фарш і сотэ | 320—330 | 1 | 30 | 1 | 66 |
| | 445—453 | 1 | 63 | 1 | 96 |
| | 500—520 | 1 | 89 | 2 | 27 |
| | 820-830-850 | 2 | 60 | 3 | 12 |
| 33. Ікра баклажаная і кабачковая . . . . . . . | 320—330 | 1 | 20 | 1 | 44 |
| | 445—453 | 1 | 50 | 1 | 80 |
| | 500—520 | 1 | 74 | 2 | 09 |
| | 850 | 2 | 40 | 2 | 88 |
| 34. Зялёны гарошак № 3 . . | 420 | 1 | 60 | | |
| | 850 | 2 | 50 | | |
| № 2 . . | 420 | 2 | 00 | 2 | 40 |
| | 850 | 3 | 13 | 3 | 74 |
| № 1 . . | 420 | 2 | 30 | 2 | 76 |
| | 850 | 3 | 59 | 4 | 31 |
| № 0 . . | 420 | 2 | 50 | 3 | 06 |
| | 850 | 3 | 91 | 4 | 69 |
| 35. Бабы стручковыя, свёкла і маркоў . . . . . . | 420 | 0 | 69 | 0 | 83 |
| | 500 | 0 | 87 | 1 | 04 |
| | 830 | 1 | 21 | 1 | 45 |
| 36. Кукурузныя . . . . . | 580 | 0 | 87 | — | — |
| | 830 | 1 | 21 | — | — |
| 37. Цветная капуста . . . | 420 | 1 | 80 | 2 | 34 |
| | 850 | 3 | 00 | 3 | 90 |
| 38. Цэлыя памідоры . . . | 815—820 | 3 | 03 | 3 | 64 |
| | 1000 | 3 | 64 | 4 | 37 |
| 39. Шпінат і шчавель пюрэ . | 420 | 0 | 88 | — | — |
| | 830 | 1 | 65 | — | — |
| Бутылачны . . . . . | 1 літр | 1 | 69 | — | — |
| 40. Агурцы пастэрызаван.. . | 830 | 2 | 80 | 3 | 43 |
| | 4450 | 14 | 30 | 17 | 16 |
| 41. Бабы у тамаце . . . . | 580 | 1 | 80 | — | — |
| | 860 | 2 | 60 | — | — |
| 42. Свіна-бабовыя . . . . | 580 | 2 | 05 | 2 | 46 |
| | 850 | 2 | 90 | — | — |
| | 3000 | 9 | 57 | — | — |
| 43. Малако згушчонае . . . | 410—420 | 2 | 70 | — | — |
| | 490—500 | 3 | 20 | — | — |
| 44. Какао з згушчоным малаком . . . . . . . | 410 | 5 | 20 | — | — |
| **Кампоты** | | | | | |
| 45. Персікі і абрыкосы . . | 850 | 5 | 00 | 6 | 00 |
| 46. Чарэшня Рэнгдод . . . | 900 | 5 | 00 | 6 | 00 |
| 47. Айва вінаград . . . . | 900 | 4 | 10 | 5 | 92 |
| 48. Груша, сліва, мірабель . | 880—900 | 4 | 50 | 4 | 40 |
| 49. Іхюмерык-ал-эрчык вішня | 930 | 4 | 50 | 5 | 40 |
| 50. Вішня ў бутэльках (без каштоўнасці бутэлькі) . | 1000 | 4 | 20 | — | — |
| 51.Ківіль. . . . . . . | 950 | 4 | 50 | 5 | 40 |
| 52. Яблыкі . . . . . . . | 825 | 4 | 50 | 5 | 40 |

## Аптова-рознічныя накідкі на адпускныя цэны кансерваў устаноўлена:

| Назва кансерваў | Уся гандлёвая накідка | У тым ліку накідка Саюзкансервзбыта і Саюзрыбзбыта у %% да адпускной цаны | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Пры адпуску транзіт | Для „Гастраном“ і „Бакалеі“ | Для сеці іншых гандлююч арганіз. |
| Рыбныя . . . . . | 9% | 0,4% | 0,9% | 1,6% |
| Гароднія . . . . | 15,5% | 0,7% | 1,6% | 2,7% |
| Свіна-бабовыя . . . | 12,0% | 0,6% | 1,2% | 2,1% |
| Малочныя . . . . | 11% | 0,5% | 1,1% | 1,9% |
| Фруктовая (кампоты) | 14% | 0,7% | 1,4% | 2,4% |

Пры акругленні рознічных цэн гандлюючыя арганізацыі павінны кіравацца пастановай Наркамснаба СССР № 84 ад 21/IV-34 г.

На пакрыцце гандлюючым арганізацыям аўтагужвыдаткаў на кансервы, рэалізуемыя ў мясцох, якія знаходзяцца звыш 5 клм. ад чыгуначнай станцыі, або воднай прыстанні і складаў пастаўшчыка, устаноўлена дадатковая накідка:

| | ад 5 да 30 | ад 31—60 | ад 61—100 |
|---|---|---|---|
| Да 500 гр. . . . . | 3 кап. | 6 кап. | 10 кап. |
| ад 500 да 1000 гр. | 6 „ | 12 „ | 20 „ |
| звыш 1000 гр. . . | 10 „ | 20 „ | 30 „ |

(Пастанова Наркамунутгандля СССР ад 7/V-35 г. № 332 і 17/V-35 г. № 365 і пастанова СНК БССР ад 15/V-35 г. № 735).

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР

г. Минск, Советская ул. Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм — МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской конторе Госбанка № 160/10076.

## ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

Гвозди деревянные березовые сапожные—80 тонн—1970 р. тонна, франко-склад продавца. Тара и отправка за счет покупателя. Расчет акцептом. Отгрузка в III и IV-м кварталах 1935 г.

Плиты чугунные 2-х камфоровые разм. 711×533—10 тонн—450 р. тонна, со включением государственной наценки. Плиты чугунные глух. размером 711×445—3 тонны—350 р. тонна. К указанным ценам прибавляется наценка продавца—8 проц. Цены франко—склад продавца. Отгрузка продавца за счет покупателя немедленная. Расчет акцептом.

Седелки крестьянские стоячие—3000 шт.—8 р. 50 к. Вожжи—тесемочные—1500 шт.—6 р. 58 к. Кистифиленчатые—8000 штук щетинные №№ от 10 до 24—4,5 коп. номер. Цены франко-склад производства. Тара и отправка за счет покупателя. Отгрузка в течение 30 дней с момента оформления договора. Расчет акцептом.

Седелки стоячие горбатые крестьянские—2000 штук по цене 6 р. 95 к. штука, франко-склад производства. Расчет акцептом. Отгрузка в III-м квартале.

## СПРОС ТОВАРОВ

Нитки на катушках или бабинах любых цветов от № 40 до № 80, пряжа всех номеров белая и крашеная, шелк искусственный (вискоза) любых номеров, солома кулевая, мятая, прессованная, бутылки емкостью 0,3—0,6 литров, жидкое стекло, кармарин, канифоль, алюмминиевые квасцы, окись марганца молотая, перекись марганца, свинцовый гнет, сода кальцинированная, отходы от саломаса, воск пчелиный натуральный, парафин, негризин комовой в кусках, технический рыбий жир, отходы от рыбьего жира, обод дубовый и ясеневый, спица дубовая и ясеневая от 42 снм., детские салазки городского типа, деревянные лопаты, хозяйственные и снеговые, деревянные корыта—ночевки, метла березовые, оглобли и дручки березовые, рогожи и рогожные кули, обод осиновый или хвойный, лакасфальтовый, гуталин черный и желтый, технический жир, краски эмалевые всех цветов, живица, известь негашенная, стружка фруктовая, галолит цветной, целлулоид, клей столярный, картон разный, оберточная бумага, краски анилиновые нефасованные, пеньковые и льняные отходы, железо сортовое разное, железо листовое, проволока разная, отходы сортового и листового железа, железо упаковочное, мерный и весовой лоскут х/б, резина для подошвы, корзины дорожные и багажные, бочки дубовые на железных обручах, пиломатериал, тарные ящичные комплекты разные, бочковая клепка, скипидар белый, лимонный, смола сосновая, деготь березовый, галипот, пек сосновый, клейбомасса, ворвань, круглый лес, першак, хлорная известь, гипс.



Выданне Наркамунутгандлю БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар I. I. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Д. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 714. Тыраж 714 экз. Галоўлітбел № 2889.